# БЮЛЕТЭНЬ

Цэнтральнага Праўленьня Прафэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых Б.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

(Галоўныя пастановы Прэзыдыуму, дырэктывы Цэнтральнага Праўленьня, інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 7 (25) | 15-га МАЯ 1929 году | № 7 (25)

## З Ь М Е С Т.



## А. Пастановы Прэзыдыуму ЦП Саюзу

(*Пратакол № 9 ад 24-га красавіка 1929 г.*)

### 1. Аб жылбудаўніцтве ў савгасах і лясніцтвах на 1929 г.

ПА ЛІНІІ САВГАСАЎ

1. Адзначыць, што пытаньню жылбудаўніцтва ў савгасах у будаўнічы сэзон 1928 г. ня было зьвернута належнай ўвагі з боку Белсельтрэсту, кіраўнікоў савгасаў і вытворчых нарад у савгасах, што ў выніку дало такія адмоўныя бакі ў гэтай працы, як:

а) нескарыстаньне поўнасьцю прызначаных на жылбудаўніцтва сродкаў у суме 241.000 руб. Засталася нескарыстаных сродкаў 36.000 руб. у той час, калі патрэбнасьць савгасаў у жылплошчы вельмі вялікая, а таксама наяўнасьць выпадкаў скарыстаньня сродкаў не па прызначэньню;

б) нявыканана Белсельтрэстам пастанова ЦП саюзу ад мая месяца 1928 г. у галіне вучоту годнай і нягоднай жылплошчы, не прыняты меры па высяленьню з савгасаў асоб, нямаючых ніякіх адносін да савгасаў. Не урэгулявана пытаньне па забесьпячэньню жыльлём інвалідаў працы праз арганізацыю сумесна з другімі органамі калёніі;

в) недастатковы кантроль з боку Трэсту і ўпанаважаных у акругах па выкананьню савгасамі плянаў і каштарысаў па капітальных укладаньнях, у зьвязку з чым аддзельнымі кіраўнікамі парушаны каштарысы па гаспадарчым будаўніцтву (на ўсяго Трэсту перарасход на 532.000 р.), несваечасовы водпуск сродкаў Трэстам і няпоўнае скарыстаньне аддзельнымі савгасамі банкаўскага крэдыту на жылбудаўніцтва.

Усё гэта падкрэсьлівае адсутнасьць цьвёрдай плянавасьці ў гэтым пытаньні.

У мэтах упарадкаваньня пытаньня па жылбудаўніцтву ў савгасах у 1929 г., Прэзыдыум ЦП саюзу пастанаўляе:

1) З складзеным БСТ плянам жылбудаўніцтва на 1929 г. па пабудове 21 новых дамоў на суму 251.852 руб. і на капітальны рамонт дамоў у 77 савгасах на суму 156.538 руб., з затратай уласных сродкаў 65.000 руб. і па лініі дзяржаўнага крэдыту праз Белсельбанк

83.265 руб. і Камунбанку 308.000 руб.— згадзіцца, лічучы ўсё-ж гэты плян будаўніцтва, у параўнаньні з існуючым жыльлёвым крызісам у савгасах, недастатковым.

2) Падтрымаць плянавую заяўку Трэсту перад ЭКАНА на поўнае здавальненьне дзяржаўным крэдытам па лініі Белсельбанку 83.265 руб. і Камунбанку 308.000 руб. на жылбудаўніцтва, бо нездавальненьне поўнасьцю банкаўскім крэдытам Трэсту зьявіцца зрывам плянавага будаўніцтва і яшчэ ў большай ступені паглыбіць жыльлёвы крызіс у савгасах, што ў значнай меры адбіваецца на бытавым становішчы рабочых і вытворчасьці па ўсіх галінах савгаснага будаўніцтва.

3) Белсельтрэсту ў самы кароткі тэрмін, згодна будаўнічага пляну, даць належныя паказаньні савгасам, выслаўшы ім пляны тыпавых будынкаў, аб падрыхтоўцы да будаўніцтва, наладзіўшы нармальны тэхнічны нагляд па будаўніцтву.

4) Прапанаваць усім рабачкомам савгасаў пытаньне жылбудаўніцтва і рамонту кватэр прапрацаваць на вытворчых нарадах не пазьней мая месяца, строга ўвязваючы гэта з сродкамі па пляну. Белсельтрэсту па сваёй лініі даць паказаньні кіраўнікам савгасаў аб дачы ўсіх матар'ялаў па жылбудаўніцтву і рамонтах для прапрацоўкі ў вытворчых камісіях і абгаварэньня на вытворчых нарадах, пасьля чаго прыступіць да будаўніцтва.

5) Прапанаваць Трэсту ў працягу лета 1929 г. аслабаніць жылплошчу ад асоб, пражываючых у савгасах і нямаючых ніякіх адносін да савгасаў, прыняўшы ўсе залежныя ад Трэсту меры да выкананьня пастановы ўраду аб выдзяленьні савгасаў для арганізацыі с/г каленій для інвалідаў працы, увязаўшы гэту працу з ворганамі Наркамсабезу і Наркампрацы.

6) У ажыцьцяўленьне дырэктывы Усесаюзнага і IX-га Усебеларускага Зьезду н/саюзу аб забесьпячэньні патрэбнай рабочай сілы ў савгасах за лік батрацтва і ў мэтах зьменьшаньня жылплошчы, Белсельтрэсту прадугледзець у новым жылбудаўніцтве з гэтага году арганізацыі інтэрнатаў і сталовых для калектыўнага харчаваньня рабочых, што таксама прадугледзець пры капітальным рамонце старых жыльлёвых будынкаў, аб чым даць належныя паказаньні сумесна з АТЭ ЦП па лініі кіраўнікоў і рабачкомаў савгасаў.

7) Прыняць самыя рашучыя меры да поўнага і рацыянальнага скарыстаньня сродкаў на жылбудаўніцтва, прыцягваючы кіраўнікоў савгасаў за скарыстаньне сродкаў не па прызначэньню да адказнасьці. Рабачкомам і вытворчым нарадам устанавіць сыстэматычны кантроль над правільным расходваньнем гэтых сродкаў.

## ПА ЛІНІІ ЛЯСЬНІЦТВ

1) Канстатаваць, што вызначаныя сродкі на жылбудаўніцтва і рамонты на 1927/28 г. па дзяржбюджэту 131.600 руб. і па Лесзагу 146.615 руб. поўнасьцю скарыстаны па прызначэньню ў плянавым парадку, у выніку чаго пабудавана дамоў: для лясьніцтва з канцэлярыямі —10, для лясьнічых без канцэлярый—1, для пам. лясьнічых—6, для лясной варты —62, з іх 2-х кватэрных 21, надворных будынкаў—74, адрамантавана дамоў для лясьнічых—49, пам. лясьнічых—28 і для лясной варты—264. Зараз лясьніцтвы маюць уласных дамоў для лясьнічых —74, пам. лясьнічых—77, для лясной варты—1344, што забясьпечвае лясных работнікаў жыльлём на 28 проц.

2) Складзены 5-цігадовы плян жылбудаўніцтва ў лясьніцтвах, па якому разьлічана пабудаваць за сродкі дзяржбюджэту і Лесзагу 116 дамоў для лясьнічых, 600 дамоў для пам. лясьнічых і 3.580 для лясной варты, з рамонтам кожны год 20 проц. жылплошчы, поўнасьцю забясьпечвае лясных работнікаў у кватэрным пытаньні і дае магчымасьці ў працягу 5-ці год апралетарызаваць лясную варту.

3) Адзначаны пастановай Прэзыдыуму ЦП 15 га мая 1928 г. такі недахоп у жылбудаўніцтве, як адсутнасьць тыпу пабудовы і інструкцыі для кіраўніцтва пры жылбудаўніцтве—зьнішчаны. Тып будынкаў і інструкцыі па будаўніцтву распрацаваны, чым забясьпечаны ўсе лясьніцтвы.

4) Адзначыць, як ненармальнае зьявішча, адсутнасьць плянаў жылбудаўніцтва ў Акруговых Інспэктарыятах Лясоў, несваечасовы водпуск сродкаў на жылбудаўніцтва і рамонты з боку Лясной Групы НКЗБ, што зацягвае пабудову

і рамонты дамоў, адсутнасьць належнага тэхнічнага нагляду па будаўніцтву, адсутнасьць сваечасовага і належнага абгаварэньня пляну жылбудаўніцтва па акругах у Акрінспэктарыятах Лясоў с удзелам Акраддзяленьня/ саюзу і ўнутры лясьніцтва на вытворчых нарадах лясных работнікаў.

У мэтах поўнага і плянавага ажыцьцяўленьня 5-цігадовага пляну жылбудаўніцтва ў лясьніцтвах і пляну на 1928/29 год, Прэзыдыум ЦП саюзу пастанаўляе,

1) Лясной Групе НКЗБ забясьпечыць у працягу 5-цігодкі правідловае кіраўніцтва па жылбудаўніцтву, патрэбны тэхнічны нагляд за будаўніцтвам і рамонтамі праз адпаведнага спэцыялістага і сваечасовы водпуск сродкаў.

2) Лічыць неабходным, на падставе 5-цігадовага пляну, Лясной Групе НКЗ наогул даць паказаньні Акрінспэктарыятам Лясоў скласьці пляны жылбудаўніцтва па акругах з папярэднім абгаварэньнем іх на вытворчых нарадах у лясьніцтвах і Акраддзяленьнях саюзу.

3) З плянам будаўніцтва на 1928/29 г., якім прадугледжана пабудаваць дамоў у лясьніцтвах паасобных акруг:

| | Дамы для лясьн. | Дамы для пам. лясьн. | Дамы для ляс. варты. |
|---|---|---|---|
| 1. Менскай акр. . . | 2 | 1 | 40 |
| 2. Бабруйскай „ . . . | 1 | 1 | 40 |
| 3. Гомельскай „ . . . | 1 | — | 27 |
| 4. Магілёўскай „ . . . | 1 | 1 | 28 |
| 5. Аршанскай „ . . . | 1 | 1 | 21 |
| 6. Полацкай „ . . . | 1 | 1 | 27 |
| 7. Віцебскай „ . . . | 1 | — | 21 |
| 8. Мазырскай „ . . . | 1 | 1 | 36 |
| Разам . . . | 9 | 6 | 240 |

згадзіцца.

4) Прымаючы пад увагу, вельмі адказную працу па жылбудаўніцтву, значныя вялікія сродкі, затрачваемыя дзяржавай на гэту мэту, Лясной Групе НКЗБ дабіцца ў гэтым годзе зьніжэньня каштоўнасьці па будаўніцтву на 15 проц., усклаўшы ўсю адказнасьць па будаўніцтву, у галіне рацыяналізацыі, сваечасовасьці і ўдзешаўленьня будаўніцтва на лясьнічых.

5. Рабачкомам лясьніцтв плян жылбудаўніцтва ўнутры лясьніцтва ўсебакова абгаварыць на вытворч. нарадах, ажыцьцявіўшы поўнасьцю рабочы кантроль за будаўніцтвам і рамонтамі ў напрамку —сваечасовага пачатку будаўніцтва і рамонту, рацыяналізацыі, зьніжэньня сабекошту на 15 проц. у гэтым годзе.

Белсельтрэсту і Лясной Групе НКЗ забясьпечыць сваечасовае сканчэньне пабудовы новых будынкаў, устанавіўшы, як правіла, каб пачатыя будынкі былі пабудаваны цалкам за адзін сэзон, а таксама абавязкова не пазьней жніўня месяца канчаткова афармляць пляны жылбудаўніцтва на папярэдні год, увязваючы гэтыя пляны з 5-ці гадовым плянам, і сваечасова пабудаваць нарыхтоўку будаўнічых матар'ялаў.

Лічыць зусім недапушчальным, што Камунбанк выкрэсьліў з свайго пляну сродкі на крэдытаваньне жылбудаўніцтва ў саўгасах, аб чым давесьці да ведама ЦСПСБ

Даручыць АТЭ з БСТ скласьці па гэтаму пытаньню дакладную запіску ў адпаведныя ўстановы.

Заслухаць на пасяджэньні Прэзыдыуму інфармацыю Бел амунбанка па гэтым пытаньням.

## 2. Аб вытворча-тэхнічнай кваліфікацыі членаў саюзу

1) Адзначыць, што да 15/I-г. г. праведзены наступныя курсы:

а) кіраўнікоў саўгасаў пры с/г Акадэміі 32 чал., з іх 20 кіраўнікоў і 12 старшых рабочых (праслухаўшыя курсы ст. рабочыя ў сучасны момант працуюць на пасадзе кіраўнікоў);

б) курсы калгасьнікаў—34 чал., з іх па лініі НКЗБ—22 чал. і Калгассаюзу—12 чал. Удзел саюзу ў камплектаваньні даных курсаў пры Акраддзяленьнях быў нездавальняючы;

в) курсы малако-сыравараў —200 чал. па акругах (Гомель, Менск, Віцебск, Магілёў);

г) курсы трактарыстаў у Менску пры НКЗБ у ліку 52 чал., выключна з рабочых саўгасаў, батракоў і частка з калгасаў;

д) курсы прарабаў у колькасьці 50 ч. па лініі Лесбелу і Лесзагу.

Усяго прайшло праз 3-х месячныя курсы перападрыхтоўкі 368 чал. Акрамя таго, па лініі БСТ праведзены каротка-тэрміновыя вячэрнія курсы рабочых 58 савгасаў, лік вядомы па 3-х акругах (Гомель, Мазыр, Бабруйск) 687 чал., па астатніх акругах зьвестак яшчэ няма.

Праведзены вячэрнія курсы (гурткі) земляўпарадкавацеляў па ўсіх акругах, праз якія прайшлі ўсе земляўпарадкаваце лі.

2) Прэзыдыум адзначае наступныя недахопы па правядзеньню курсаў:

а) была недастатковая ўвага з боку саюзных органаў на мясцох пры скліканьні і правядзеньні курсаў калгасьнікаў і малако-сыравараў, з прычыны чаго на гэтых курсах было вельмі мала батракоў і, наогул, членаў саюзу;

б) недастатковую ўвагу з боку гаспадарчых органаў да падрыхтоўкі курсаў і несваечасовае складаньне праграм курсаў;

в) недастатковы падбор выкладчыкаў, з прычыны чаго ня былі выкананы намечаныя праграмы па такіх важных пытаньнях, як напрыклад—на калгаскурсах прадмет „арганізацыя вытворчых каапэрацыйных аб'яднаньняў“ і інш., пастаўленыя мэтай для гэтых курсаў ня былі выкананы і курсанты засталіся нездаволены;

г) дрэннае забесьпячэньне курсантаў кватэрамі і навучальнымі падручнікамі (напрыклад—трактарныя курсы да канца заняткаў ня мелі адпаведных сыстэм вучэбных трактараў).

3) У 1929 г. арганізаваць і правесьці:

а) курсы для лясьнічых пры с/г Акадэміі—пачатак жнівень ці верасень, тэрмін—2 месяцы на 42 чалавекі за сродкі Лясной Групы НКЗБ па каштарысу ў суме 7.875 руб.;

б) курсы па перападрыхтоўцы аб'ездчыкаў на 200 чал. па ўсіх акругах, тэрмін 2 месяцы, за сродкі Лясной Групы НКЗБ (на што адпушчана 12 000 руб.);

в) курсы па падрыхтоўцы падсочнікаў на 40 чал., за сродкі Лесзагу;

г) курсы па перападрыхтоўцы кіраўнікоў савгасаў пры с/г Акадэміі на 50 ч., за сродкі БСТ;

д) БСТ арганізаваць у 1929/30 годзе масавыя каротка-тэрміновыя вытворчыя курсы ва ўсіх савгасах.

Усяго намечаецца прапусьціць праз курсы перападрыхтоўцы да канца году 322 чал. Такім чынам праз доўга-тэрміновыя курсы павінна быць прапушчана 700 чал., што і прадугледжана па пляну ЦП.

4) У частцы падрыхтоўцы і арганізацыі курсаў неабходна:

а) сваечасова ставіць пытаньне перад гаспадарчымі органамі аб тэрмінах скліканьня курсаў, падбору кандыдатаў на курсы, асабліва зьвярнуўшы ўвагу на пасылку батракоў на адпаведныя курсы;

б) сваечасова распрацаваць праграмы курсаў, забясьпечваць курсантаў навуковымі падручнікамі і прыладамі. Культаддзелу ЦП сваечасова выпрацаваць адпаведную праграму для культмасавай працы сярод курсантаў;

в) забясьпечваць лепшымі бытавымі ўмовамі курсантаў, як та: кватэрамі, харчаваньнем і г. д.;

г) культаддзелу ЦП завясьці сталы вучот усёй праведзенай працы па перакваліфікацыі;

д) акраддзяленьням, рабочкомам і сэкцыям спэцыялістых пры падборы кандыдатаў на курсы ў першую чаргу пасылаць вылучэнцаў і намечаных да вылучэньня.

### 3. Пастанова па дакладу Белторптрэста

1. Заслухаўшы даклад т. ВАЛЬНЯКА аб становішчы і перспэктывах далейшага разгортваньня работы Белторптрэста, Прэзыдыум ЦП саюзу адзначае, што, нягледзячы на кароткі тэрмін арганізацыі Белторпу (арганізаваны I/VII-27г.), ім зроблена:

а) Плян капітальных работ трэстам на 1928 г. выканан на 79,8 проц.

б) Маецца эканомія трэста за 1928 г. па скончанаму будаўніцтву на 24 проц. за лік эканоміі будаўнічага лесаматар'яла і самалесазагатоўкі, а таксама паніжэньня агульна-адміністрацыйных выдаткаў на 14,6 проц.

в) Адзначыць, што Белторптрэстам выкананы пастановы ЦП саюзу па пытаньню аб складаньні пяцігадовага пляну. На торпараспрацоўках пабудована 6 новых дамоў, 9 баракаў і 1 клюб.

г) Адзначыць правільную лінію Белторптрэсту, узятую ім пры складаньні

прамфінпляну на 1928-29 г., з павялічэньнем росту прадукцыі на 377 проц., у параўнаньні з 1928 г.

У 1928 годзе было 12.000 тонн — 400 чал. рабочых

у 1929 г. „ . . . . 45.000 “ — 1002 „ . . „ , з якіх мясцовых складае 58 проц.

2. Прэзыдыум адзначае наступныя ўмовы, якія перашкаджаюць і дрэнна адбіваюцца на далейшым разгортваньні гаспадарчае дзейнасьці Белторптрэсту:

а) Арганізацыя новых вялікіх самастойных гаспадарак-торпараспрацовак другімі гаспадарчымі органамі: Шклотрэст, Папертрэст і другія пры існаваньні Торптрэсту, што выклікае непатрэбныя выдаткі, бесплянавасьць, канкурэнцыя рабсілы і ўдаражэньне сабекаштоўнасьці (апарат).

б) Недавыпрацоўка вытворчай праграмы торпу ў мінулым годзе на 48,1%, дзякуючы чаму палучылася павышэньне сабекаштоўнасьці на 25 проц., позьняе прыбыцьцё новых машын, кепскія пагоды, дажджы, непадрыхтоўка саміх балот, як абсушка, адсутнічаньне кваліфікаванай рабсілы на торпараспрацоўках, малая вытворчасьць мясцовых арцеляў.

в) Слабая работа саюзных органаў на торпараспрацоўках, асабліва вытворчых нарад і культурна-вытворчага выхаваньня, дзякуючы чаму маюцца недавыпрацоўкі норм і выпадкі аслабленьня працдысцыпліны.

г) Частая зьмена дырэктараў торпараспрацовак, адсутнасьць ініцыятыўнасьці і самастойнасьці, адказнасьць на мясцох за даручаемую работу і недастатковая работа па вылучэньню рабочых-тарпянікаў на пасады дзесятнікаў.

Выходзячы з дадзенай характарыстыкі гаспадарчай дзейнасьці і ўмоў работы трэсту, Прэзыдыум ЦП саюзу пастанаўляе:

а) Даручыць Белторптрэсту ў далейшым няўхільна праводзіць у жыцьцё намечаныя мерапрыемствы пяцігадовым плянам, для чаго неабходна:

падняць перад адпаведнымі органам пытаньне аб аб'яднаньні ўсіх торпараспрацовак Беларусі ў адзін кіруючы цэнтр у мэтах рацыяналізацыі вытворчасьці, увядзеньня штандартызацыі ва ўсёй тэхнічнай працы, тым самым палепшыцца плянавая праца тарпяной прамысловасьці і зьнізіцца сабекаштоўнасьць.

б) У мэтах падрыхтоўкі кваліфікаваных работнікаў для тарпянай прамысловасьці лічыць неабходнасьць арганізацыі вучэбна-вытворчых гаспадарак, для чаго прасіць СНК БССР адпусьціць для гэтай мэты Белторпу патрэбныя сродкі ў суме 88.000 руб.

в) Для большага ўцягненьня батрацтва і беспрацоўных членаў саюзу на торпараспрацоўках Белторпу прыняць меры да забясьпечэньня іх неабходнымі інструмэнтамі і неабходнымі добраякаснымі прадуктамі харчаваньня.

г) У поўнай меры забясьпечыць рабочых на торпараспрацоўках жыльлёвымі памяшканьнямі, а таксама ўсімі прыладамі па ахове працы (аптэчка, лазьні, спэцвопратка і г. д.).

д) Пры пачатку работы ўстанавіць цьвёрдую норму выпрацоўкі, якую ўзгадніць з саюзнымі органамі і замацаваць яе на ўвесь сэзон работы, не дапушчаючы частковага перагляду.

е) Даручыць Белторпу распрацаваць шэраг мерапрыемстваў па рацыяналізацыі вытворчасьці ў напрамку зьмяншаньня сабекаштоўнасьці.

ж) Органам Белторпу і саюзным узмацніць работу па разгортваньню працы вытворчых нарад і камісій на торпараспрацоўках, згодна пастановы Прэзыдыуму ЦП саюзу (бюл. №4 ад 15/III).

3. Прыняць да ведама заяву тав. ВАЛЬНЯКА аб тым, што Белторптрэстам праведзена падрыхтоўчая работа да сэзону торпараспрацовак, які будзе пачаты своечасова (адрамантаваны машыны, навербавана і ўкамплектавана рабсіла, заключаны дагаворы з каапэрацыйнымі арганізацыямі на забесьпячэньне прадуктамі харчаваньня).

## Б. Дырэктывы ЦП і вышэйшых Савецкіх органаў

### 1. Аб масавай культпалітасьветнай рабоце сярод сэзоньнікаў

*Усім акруговым інспэктарам палітасьветы, адбіткі: акруговым радам „П.Н.", акруговым саюзам будаўнікоў і сельгаслесрабочых*

Надыходзячы летні сэзон 1929 году Палітасьветустановы павінны максымальна выкарыстаць для выхаваўчае палітасьветработы, для поўнага ахопу ўсіх сэзонных рабочых гэтай работай, а таксама і эканамічна-палітычнай работай. Масавая работа сярод сэзоньнікаў па свайму зьместу і форме на кожным паасобным прадпрыемстве павінна быць пабудавана так, каб у кожнага рабочага сэзоньніка выхоўвалася клясавае разуменьне задач сацыялістычнага будаўніцтва, наогул, і ў прыватнасьці, каб зьвярнуўшыяся ў вёску сэзоньнікі станавіліся там сапраўды праваднікамі палітыкі камуністычнае партыі на вёсцы. Масавая палітыкапрасьвеціцельная работа павінна быць накіравана ў бок актывізацыі адносін сэзоннага рабочага да прадпрыемства, да падняцьця працоўнай дысцыпліны, да рашучай барацьбы з прагуламі, п'янствам, хуліганствам, рвачэствам і іншымі непатрэбнымі зьявамі ў рабочым быту, да ўсямернага палепшаньня якасьці, як будаўнічых, так і іншых сэзонных работ.

Акрпалітасьветінспэктарыятам, разам з адпаведнымі арганізацыямі, саюзу будаўнікоў, сельгаслесрабочых і інш., неабходна зараз-жа прыступіць да намячэньня канкрэтных мерапрыемстваў па стварэньню адпаведных умоў для шырокага абслугоўваньня сэзоньнікаў эканамічнай, палітычна-масавай і культурнаасьветнай работай, як прыстасаваньне памяшканьняў пад жыльлё, адвядзеньне памяшканьняў для культурна асьветнае работы, забесьпячэньне адзеньнем, меддапамогай, харчамі, акуратнай іх дастаўкай, абсталяваньне бібліатэчак, чырвоных куткоў, кіно-перасовак, намячэньне работнікаў для правядзеньня культасьветнай працы і г. д. Для гэтае мэты неабходна выкарыстоўваць маючыяся культасьветсілы. Кіраўніцтва культпрацай па сэзонных работах павінна быць жывым. Неабходна ўскласьці на ўсіх інспэктароў адказнасьць за пастаноўку палітасьветработы ў раёне, у мясцох правядзеньня сэзонных работ, а ў гарадох—на гар. інспэктароў.

У праграмы правядзеньня культурна-палітасьветработы сярод сэзоньнікаў павінны быць уключаны, як асноўны элемент, пытаньні інтэрнацыянальнага выхаваньня, барацьбы з антысэмітызмам, клясавага разуменьня сэзоньнікамі інтарэсаў вытворчасьці, пытаньні барацьбы з рэлігійным забабонамі, барацьбы з алкагалізмам і г. д. Масавую культасьветработу з праграмай працоўнага дню неабходна так увязаць, каб забясьпечыць найлепшае правядзеньне рабочым адпачынку: напрыклад, клюбная работа павінна быць набліжана да рабочага і правадзіцца ў чырвоных кутках, агульных памяшканьнях і г. д, з адшуканьнем больш лёгкіх форм яе ажыцьцяўленьня, як пасылка ў палудзёны перапынак на эстрады гармонік, чытка газэт, спартыўных выступленьняў, радыё, кіно-перасоўкі, насьценгазэты—усё гэта віды і формы працы, якія неабходна дапасоўваць у іх правядзеньні да ўмоў працы сэзонных рабочых.

Маючы на ўвазе шматнацыянальнасьць сэзонных рабочых, неабходна сканцэнтраваць увагу на пытаньні нацыянальнае палітыкі, яе практычных задач сутнасьці барацьбы з антысэмітызмам і шавінізмам пад кутам гледжаньня інтэрнацыянальнага выхаваньня рабочых, забясьпечвая правядзеньне работы на мовах іх нацый. Асабліва сэзонныя рабочыя павінны быць абслугоўваемы школамі для малапісьменных і лікпунктамі для няпісьменных з поўным задавальненьнем апошніх належнымі падручнікамі, мэтдапаможнікамі, сшыткамі і алоўкамі і, галоўнае, добрымі ліквідатарамі.

Па пытаньнях абслугоўваньня розных груп сэзонных рабочых неабходна дагаварыцца з адпаведнымі саюзамі, напрыклад: з акрсаюзамі сельгаслесрабочых аб культурным абслугоўваньні плытагонаў, аб арганізацыі на плытах чырвоных куткоў, а на беразе стаўнак плытоў аб скарыстаньні хат-чытален,

раздачы газэт, літаратуры і г. д. Па сканчэньні і ў самы час работы неабходна ўлічваць вопыт і на падставе вопыту ўносіць належныя карэктывы ў правадзімую работу.

Па атрыманьні гэтага належыць прыступіць да хуткага абгаварэньня пытаньняў па абслугоўваньню сэзонных рабочых, канчаткова ўстанавіўшы месца знахаджэньня рабочых і тыя мерапрыемствы, якія магчыма правесьці ў акруговым масштабе. У правядзеньні мерапрыемстваў па абслугоўваньню сэзонных рабочых неабходна кіравацца вышэйпаказаным і паказаньнямі ЦП саюзаў.

Нам. Народнага Камісара Асьветы **Слонім**

Заг. Культаддзелу ЦПС Будаўнікоў **Фаловіч**

Нам. Заг. Культаддзелу ЦПС Сельгаслесрабочых **Маслава**

Інспэктар Н. К. А. **Наумёнак**

Адказны Сакратар ЦР Т-ва „ПН" **Б. Мухін**

27/IV-1929 г.
№241-334.

### 2. Аб забесьпячэньні сэзоньнікаў і рабочых савгасаў сельска-гаспадарчымі і прамысловымі прадуктамі

**(дырэктывы: Наркомгандлю, Белкаапсаюзу і пастанова прэзыдыуму ЦП саюзу ад 24/IV-29 г.)**

#### а) Дырэктыва Наркамгандлю:

*Акруговым Інспэктарам Гандлю*

Адбіткі: Белкаапсаюзу,
ЦП саюзу Сельгаслесрабочых

У сувязі з пачаткам сэзонных работ наступным Наркамгандлю БССР прапануе Акруговым Інспэктарам Гандлю прыняць наступныя меры:

1. Абавязаць адпаведныя ЦРК і спажыўкаапэрацыю на раёне забясьпечыць бесперабойнае здавальненьне ўсіх сэзонных работ, у прыватнасьці торпараспрацоўкі і мэліарацыйныя работы В/ акругі ўсімі неабходнымі прадуктамі;

2. Праверыць як арганізавана абслугоўваньне сэзонных работ з боку каапэрацыйных сыстем у сэнсе арганізацыі адпаведных ларкоў, часовых гандпрадуктаў у мясцох скапленьня работ; афармленьне дагавораў з адпаведнымі арганізацыямі на здавальненьне сэзонных рабочых, пры чым гандлюючыя арганізацыі павінны здавальняць сэзонных рабочых на аднолькавых умовах з іншымі рабочымі і служачымі гарадоў па норме, існуючай у сучасны момант.

Наркамгандлю БССР зварочвае Вашу увагу на ўсю сур'ёзнасьць пытаньня арганізацыі поўнага і бесперабойнага здавальненьня сэзон. рабочых і яшчэ раз прапануе на мясцох у тэрміновым парадку абмяркаваць гэтае пытаньне аб прыняцьці неабходных мер, забясьпечваючых усе гэтыя мерапрыемствы.

3. Аказваць адпаведнае садзейнічаньне гандлюючым арганізацыям у атрыманьні неабходных пунктаў для арганізацыі часовых ларкоў, а таксама сачыць за тым, каб з боку гаспад. арганізацый, вытвараючых сэзонныя работы, была аказана каапэр. сыстэме неабходная фінансавая дапамога шляхам авансіраваньня па таварах, належ. здачы сэзонным рабочым.

Нам. Наркамгандлю **Абрамсон**

17 красавіка 1929 г.
№ 1107

#### б) Дырэктыва Белкаапсаюзу

*ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых*
*Усім Спажыўсаюзам і п/ Аддзяленьням*

Адбітак: Наркамгандлю БССР і ЦП саюзу Сельгаслесрабочых

Па маючыхся зьвестках, справа забесьпячэньня рабочых савгасаў, у асаблівасьці тых, якія знаходзяцца на дальняй адлегласьці ад Спажыў. Т-ва альбо ад яго аддзяленьня, дэфіцытнымі таварамі абстаіць вельмі дрэнна, дзякуючы таму, што рабочыя гэтых савгасаў ня ведаюць, калі прыбывае дэфіцытны тавар, а апошні хутка разьмяркоўваецца

без дастатковага вучоту неабходнасьці і здавальненьня гэтых груп пайшчыкаў.

Праўленьне Белкаапсаюзу пагэтаму прапануе Вам тэрмінова даць усім Спаж. Таварыствам В/ раёну паказаньні наконт неабходнасьці палепшаньня абслугоўваньня пайшчыкаў—рабочых савгасаў дэфіцытнымі таварамі. У прыватнасьці Спаж. Т-вы павінны прыняць меры:

а) каб пайшчыкі—рабочыя аддзельных савгасаў сваечасова былі апавяшчаны аб прыбыцьці дэфіцытных тавараў, і

б) каб тыя тавары, якія будуць вызначаны для гэтых рабочых, былі забраніраваны за імі і на разыходзіліся па другому назначэньню.

Забясьпечэньне пайшчыкаў—рабочых савгасаў павінна ўтварацца па тых жа нормах, як і ўсе пайшчыкі рабочыя і служачыя, пражываючыя ў раёне данага Спажыў Таварыства.

Сябра Праўленьня БКС **Флеер**
Кансультант **Розенгауз**

16|IV-1929 г.
№ 063

### в) Пастанова Прэзыдыуму ЦП саюзу Сельгаслесрабочых

*ад 24-га красавіка 1929 г.*

Заслухаўшы даклад т. Горагляда аб праведзенай падрыхтоўчай рабоце АТЭ ЦП саюзу па пытаньню забесьпячэньня сельгаслесрабочых прамысловымі і с.-г.-прадуктамі, Прэзыдыум ЦП саюзу пастанаўляе:

1) Пастановы спэцыяльнай міжведамсьцвенай нарады пры ЦП саюзу ад 22-23 сакавіка г. г. з прадстаўнікоў—саюзу, НКГ, Белрабсэкцыі і гаспадарчых органаў—Белсельтрэсту, Белторпу, Лесзагу па гэтым пытаньні прыняць да ведама.

2) Лічыць, што забесьпячэньню рабочых савгасаў (сталых і сэзонных) хлебам і крупамі ў колькасьці 35 тысяч пудоў да новага ўраджаю па лініі цэнтралізаванага забесьпячэньня і ад памольнага збору з нормай 1 пуд мукі для рабочага і 30 фунтаў для служачых, членаў сямей рабочых і служачых звыш 5 гадовага ўзросту і 20 фунтаў для членаў сямей да 5 гадовага ўзросту ў месяц, зьяўляецца дастатковым.

3) З устаноўленым Н.К.Г. парадкам забесьпячэньня савгаскіх рабочых дэфіцытнымі прамтаварамі і мануфактурай праз нізовую каапэрацыйную сетку і з распрацаванай па гэтым пытаньні дырэктывай Белкаапсаюзу па лініі вясковай спажывецкай каапэрацыі—згадзіцца.

4) Устаноўленыя НКГ нормы для сэзонных: сплаўшчыкаў--1 кгр. хлеба і 400 грам. крупы, рабочым на мэлторпраспрацоўках 800 гр. хлеба і 400 гр. круп у дзень лічыць дастатковымі. Узяты напрамак органамі рабочай і вясковай спажывецкай каапэрацыі па дырэктыве НКГ аб здавальненьні сэзоньнікаў living рознымі другімі прадуктамі харчаваньня (сала, алей, сахар, селядцы і інш. прамтавары) па дагаворах з гаспадарчымі органамі праз гандлёвыя пункты рабочай і вясковай спажывецкай каапэрацыі і прыстасаваньня ларкоў і гандлёвых пунктаў да месц масавых скапленьняў сэзоньнікаў, прыняць да ведама.

5) Прапанаваць гаспадарчым ворганам тэрмінова прыступіць і да пачатку работ скончыць заключэньне дагавораў з ворганамі каапэрацыі па рабочаму снабжэньню, намеціўшы месцы для арганізацыі ларкоў і гандлёвых пунктаў, аказаўшы ўсебаковую дапамогу каапэрацыйным ворганам па арганізацыі гандлёвых пунктаў у сэнсе—прадстаўленьня памяшканьняў, арганізацыі перавозкі прадуктаў, выпечкі хлеба і інш.

6) Прапанаваць Акраддзяленьням і рабачкомам шырока абгаварыць на агульных сходах пытаньне снабжэньня рабочых прадуктамі харчаваньня і рознымі прамтаварамі, пэрыядычна заслухоўваючы на агульных сходах справаздачы мясцовых каапэрацыйных ворганаў аб рабочым снабжэньні.

7) Прапанаваць Акраддзяленьням саюзу тэрмінова прыступіць да арганізацыі на сэзонных работах рабачкомаў і ўсебакова азнаёміць рабачкомы і рабочых з становішчам рабочага снабжэньня, належна ўвязаўшы сваю працу з ворганамі рабочай і вясковай спажывецкай каапэрацыі, і ўсебаковага высьвятленьня ходу рабочага снабжэньня праз друк

8) Згадзіцца з пастановай Прэзыдыуму ЦСПСБ аб тым, што ЦРК абслугоўваюць рабочых савгасаў і інш. работнікаў, знаходзячыхся у раёне іх дзейнасьці, згодна статуту ЦРК. Савгасы-ж, знаходзячыяся ўне раёну дзейнасьці ЦРК, абслугоўваюцца адпаведнымі спажывецкімі вобчаствамі.

9) У адносіне тых рабочых і служачых, якія зараз састаяць членамі ЦРК, але, згодна статуту, апошніх павінны выбыць з складу пайшчыкаў ЦРК, прасіць Белрабсэкцыю даць паказаньні ЦРК аб тым, каб выбываючым пайшчыкам былі-б дадзены вычэрпаючыя растлумачэньні і паказаньні, хто іх павінен абслугоўваць, з тым, каб выбыцьцё з ЦРК і пераход у адпаведныя спажывецкія таварыствы не адбіваўся б на іх абслугоўваньні.

Белкаапсаюзу даць па гэтым пытаньні адпаведныя паказаньні па лініі каапэрацыі.

### 3. Аб падборы і пасылцы сельгаслесрабочых і батракоў у вайсковыя школы.

1. На падставе плянавага заданьня саюзу, Прэзыдыум ЦП 3-га красавіка г. г. пастанавіў у бягучым 1929 г. паслаць у вайсковыя школы ня менш 60 чалавек, з іх 30 батракоў.

2. Для рабочых, батрацтва і працоўнага сялянства БССР у вайсковыя школы СССР прадстаўлена 263 месцы, у наступныя школы:

| Назва школ | Назва акруг, па якіх разьмяркаваны камандыроўкі | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Менская | Віцебская | Гомельск. | Бабруйск. | Аршанск. | Магілеўск. | Мазырская | Полацкая | УСЯГО |
| Пяхотн. школы | 40 | 34 | 35 | 16 | 12 | 11 | 8 | 9 | 165 |
| Артыл. школы | 6 | 4 | 4 | 3 | 3 | 2 | 1 | 2 | 25 |
| Кавал. школы | 11 | 11 | 11 | 6 | 5 | 6 | 6 | 6 | 62 |
| Спэц. школы (інжэнэрная) | 1 | 1 | 1 | — | — | — | — | — | 3 |
| Школы сувязі | 2 | 3 | 2 | — | 1 | — | — | — | 8 |
| Усяго па БССР. | 60 | 53 | 53 | 25 | 20 | 20 | 15 | 17 | 263 |

3. Выходзячы з такой мэтавай устаноўкі ЦП саюзу рашано атабраць, падрыхтаваць, дабіцца пасылкі і прыёму у вайсковыя школы: батракоў 50 чал., рабочых саўгасаў 40 ч. і адзіночак 30 ч.

Па асобных акругах цьвёрда намечана атабраць і падрыхтаваць:

**1) Менская акруга:**
а) батракоў . . 12 ч., канд. да іх 24 ч.
б) раб. саўгасаў 12 „ „ „ „ 20 „
в) адзіночак . . 8 „ „ „ „ 10 „
Разам . . 32 ч., канд. да іх 54 ч.

**2) Бабруйская акруга:**
а) батракоў . . 8 ч., канд. да іх 12 ч.
б) раб. саўгасаў 7 „ „ „ „ 12 „
в) адзіночак . . 5 „ „ „ „ 7 „
Разам . . 20 ч., канд. да іх 31 ч.

**3) Гомельская акруга:**
а) батракоў . . 6 ч., канд. да іх 10 ч.
б) раб. саўгасаў 5 „ „ „ „ 9 „
в) адзіночак . . 4 „ „ „ „ 5 „
Разам . . 15 ч., канд. да іх 24 ч.

**4) Магілеўская акруга:**
а) батракоў . . 5 ч., канд. да іх 9 ч.
б) раб. саўгасаў 3 „ „ „ „ 6 „
в) адзіночак . . 3 „ „ „ „ 5 „
Разам . . 11 ч., канд. да іх 20 ч.

**5) Аршанская акруга:**
а) батракоў . . 6 ч., канд. да іх 10 ч.
б) раб. саўгасаў 5 „ „ „ „ 9 „
в) адзіночак . . 3 „ „ „ „ 3 „
Разам . . 14 ч., канд. да іх 22 ч.

**6) Віцебская акруга:**
а) батракоў . . 5 ч., канд. да іх 9 ч.
б) раб. саўгасаў 4 „ „ „ „ 6 „
в) адзіночак . . 3 „ „ „ „ 5 „
Разам . . 12 ч., канд. да іх 20 ч.

**7) Полацкая акруга:**
а) батракоў . . 4 ч., канд да іх 7 ч.
б) раб. саўгасаў 2 „ „ „ „ 3 „
в) адзіночак . . 2 „ „ „ „ 3 „
Разам . . 8 ч., канд. да іх 13 ч.

**8) Мазырская акруга:**
а) батракоў . . 4 ч., канд. да іх 9 ч.
б) раб. саўгасаў 2 „ „ „ „ 4 „
в) адзіночак . . 2 „ „ „ „ 3 „
Разам . . 8 ч., канд. да іх 16 ч.

4. Паведамляючы Вас аб гэтым, ЦП саюзу прапануе усім акраддзяленьням і рабачкомам.

а) Зараз-жа, згодна вышэй паказанай разьвёрсткі па акругам, прыступіць да адбору-намечэньню аддзельных тавары-

шоў з батракоў, рабочых савгасаў і адзіночак, кіруючысь правіламі прыёму ў вайсковыя школы (браш. издания Управления военно учебных заведений ГУРККК—1929 г.), якія (брашуры) Вам разасланы 25 красавіка 1929 г., у часьці узросту, фізычнага становішча, пісьменнасьці і арганізаваць падрыхтоўку за сродкі культфонду па праграме, зьмешчанай у брашуры правілаў прыёму—толькі з стала намечаных 120 чалавек, кандыдаты да іх павінны рыхтавацца самі і за свой кошт.

б) Акраддзяленьням зьвязацца з акруговымі вярбовачнымі камісіямі і дабіцца пры вярбоўцы як можна больш прасунуць членаў нашага саюзу. З боку цэнтральнай вярбовачнай камісіі ім даны належныя дырэктывы аб усебаковым садзейнічаньні батрацтву і сельгаслесрабочым прасунуцца ў вайсковыя школы.

в) Цэнтральнай вярбовачнай камісіяй у г. Менску пры Беларускай аб'яднанай вайсковай школе з 1-га чэрвеня гг. адчыняюцца курсы па падрыхтоўцы рабоча-батрацкай моладзі ў вайсковыя школы на 100 чал., працягласьцю на 3 месяцы. Нашаму саюзу на гэтыя курсы прадастаўлена 45 месц. якія па акругам разьмяркаваны **наступным** чынам:

1) Менскай акрузе 5 месц
2) Гомельскай акр. 5 „
3) Віцебскай „ 5 „
4) Магілеўскай „ 9 „
5) Аршанскай „ 7 „
6) Полацкай „ 7 „
7) Бабруйскай „ 3 „
8) Мазырскай „ 4 „

5. На падрыхтоўчыя курсы павінна быць атабрана і паслана выключна батрацкая моладзь і толькі ў тым выпадку, калі адказываючых правілам прыёму батракоў па ліку месц, не знойдзецца, то магчыма дапусьціць пасылку на гэтыя курсы 1 2 чалавек на акругу з рабочых, аб чым ужо дана дырэктыва акраддзяленьням.

ЦП саюзу спадзяваецца, што акраддзяленьні і рабачкомы да пытаньня адбору і падрыхтоўкі батрацка-рабочай моладзі і адзіночак аднясуцца з усёй уважлівасьцю і намечаны саюзам лік—120 чал. мы с посьпехам прасунем у вайсковыя школы.

Адк. Сэкратар ЦП саюзу **Шчэмелёва**

Нам. Заг. Культаддзелу ЦП **Маслава**

---

**Выдавецтва ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых БССР.** Адказны рэдактар—**Вайтэнкаў**
Намесьнікі яго: **Аскерка, Калядзенка**
Галоўлітбел № 1599 Тыраж 1200 Друкарня Менцэнтрспраўдому